*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# Наша слова




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 44(378)** **11 ЛІСТАПАДА 1998 г.**

## Малітва за беларускую мову

**О ўсемагутны Божа, уладар неба і зямлі!**

**З дзіцячым даверам маім Цябе прашу: не пакідай нас і заставайся з намі. Выслухай жа нашы малітвы : няхай людзі, расплюшчыўшы вочы, убачаць, на якой цудоўнай зямлі яны жывуць і пачуюць, на якой мілагучнай роднай, беларускай мове яны могуць размаўляць. Бацька наш, ты ўвесь свет стварыў і Духам Святым усё прасвяціў, ажывіў і ўпрыгожыў. Просім Цябе: надзялі ўсіх нас сілаю, бязмежным даверам, ахвярнаю шчыраю любоўю да Радзімы, дзе мы нарадзіліся, да той мовы, якая засталася нам у спадчыну ад нашых продкаў-беларусаў.**

**Мы, дзеці беларускага народа, імкнемся сумленна выконваць Тваю волю і запаветы Твае. У шчырай пакоры просім Цябе: злітуйся над тымі, хто адрокся ад сваёй мовы, даруй ім грахі, бо ці ёсць большы грэх, чым адрачэнне ад продкаў сваіх, ад каранёў, што жыццё нам далі. Прасвятлі, Госпадзі, іх розум, здымі чорную плёнку з воч іхніх. Хай ўспомняць яны, адкуль яны, хто яны, хай не цураюцца сваёй мовы, сваёй Радзімы. Божа міласэрдны, злітуйся над тымі, хто зневажае нашу мову, наш народ, нашу гісторыю, не карай іх жорстка, бо не ведаюць яны, што твораць.**

**Прашу Цябе, Святы Ўладыка, пашлі нашаму народу еднасць, згоду і паразуменне нашым людзям у адносінах да сваёй Радзімы Беларусі.**

**Ухвалі, Ойча, працу настаўнікаў, пісьменнікаў, вучоных і ўсіх іншых патрыётаў -беларусаў на карысць Адраджэння мовы нашай беларускай.**

**О, наймагутны Божа, зрабі так, каб мы, дзеці Беларусі, ніколі не пакідалі нашай беларускай мовы, а наадварот, усім сэрцам любілі яе. А таксама не пакінь, Божа, тых людзей, якія смуткуюць і тужаць на Радзіме сваёй, і асабліва тых, хто паддаўся спакусам, што адводзяць ад веры ў Беларусь. Пашлі беларускаму народу сваіх служак, якія набожным жыццём вялі б наш люд да лепшай долі, да свядомага служэння Айчыне. Пачуй, Божа, малітву маю і зрабі тое, аб чым прашу! Аман.**

***(Заяц Марыя, вучаніца 9 класа сярэдняй школы № 169)***

## Дзяды ў Лошыцы

***31 кастрычніка. Менск.***

Сёння, а 12 гадзіне, ля крыжа ахвярам палітычных рэпрэсій ў Лошыцы, адбылася памінальная імша.

Прадстаўнікі праваслаўнай і каталіцкай канфесій, айцец Георгій і айцец Ігар, адслужылі малебны за душы бязвінна загінуўшых.

Вядовец - намеснік старшыні ТБМ імя Ф. Скарыны, сп. А.Трусаў, падзякаваўшы святарам, прапанаваў прысутным ускласці вянкі і паставіць свечкі да магілаў і хвілінай маўчання ўшанаваць памяць ахвяр. Потым пачалася грамадзянскай імша, на якой выступалі прадстаўнікі розных дэмакратычных партый і рухаў: намеснік старшыні БНФ Ю.Хадыка, намеснік старшыні аб'яднанай Грамадзянскай партыі А. Дабравольскі, кіраўнік Партыі здаровага сэнсу І. Каравайчык, прадстаўнікі Беларускай Сацыял-дэмакратычнай грамады, рады БНФ Ленінскага р-на, рады БНФ імя Т.Касцюшкі Кастрычніцкага р-на, грамадска-маладзёжнага аб'яднання "Хлоя" і іншыя.

У сваіх прамовах выступоўцы нагадалі аб тых трагічных падзеях, якія адбыліся тут. Сёння на Беларусі паднімаюць



галаву тыя, хто хацелі б вярнуць сталінскую дыктатуру і каб не паўтарыліся новыя Гулагі, Курапаты, Лошыцы, трэба ўсім людзям супрацьстаяць спробам бальшавіцкага рэваншу. Апірышчам у такім змаганні будзе нацыянальная свядомасць, гістарычная памяць, мова і імкненне людзей жыць у вольнай незалежнай краіне.

***Т.Антончык***

## Народны ўніверсітэт у Лідзе

З 14 лістапада ў Лідзе пачынае заняткі Народны ўніверсітэт. Заняткі будуць прайходзіць у Доме Паляка кожную суботу з 14.00 да 19.00 і кожную нядзелю з 9.00 да 14.00.

Прэзентацыя ўніверсітэта адбылася 8 лістапада. На прэзентацыі прысутнічалі і мелі слова Юры Хадыка, прафесар і доктар навук, Уладзімір Тарасаў, пафесар і доктар навук, Валянцін Голубеў, кандыдат навук, Генадзь Быкаў, старшыня Свабоднага прафсаюза Беларусі.

## Восем тыдняў у верасні-кастрычніку

***Прыватны агляд беларускага друку***

**Самаліквідацыя "Нашай Нівы" Забудзьмася на Вільню, ратуйма Косава! (Звязда)**

Восень — пара вынікаў, калі ўжо відаць, што з запланаванага на год адбудзецца, а што — не. Папярэднія вынікі такія, што беларускае інфармацыйнае поле застаецца без зменаў. Пра ягоны стан сведчыць тое, што ў верасні я проста не здолеў набраць матэрыялу для агляду, які, не прэтэндуючы на поўны ахоп, адлюстроўвае прыватнае кола чытання, асабістыя зацікаўленні і прыхільнасці, выніклыя з патрэбы чытаць па-беларуску. Вось жа за два месяцы ўрэшце назбіралася ўражанняў, каб падзяліцца з чытачамі "Нашага слова".

Наймацнейшае ўражанне — асаблівая разрэджанасць беларускай думкі. Бурлівыя палітычныя падзеі, эканамічныя глыбокія ўзрушэнні неяк ратуюць газеты ад чыстых палосаў. "Звязда" запаўняе лішак плошчы астралогіяй, псіхалогіяй ды эсхаталогіяй — нізкага гатунку. У горшым становішчы "Наша Ніва", бо спецыфіка культурніцкага выдання робіць яе вельмі адчувальнай да дэфіцыту думак.

Пагартаўшы нумар з 16 старонак я выявіў, што калі адкінуць лісты падтрымкі, перадрук з расейскага "Огонька" на далёкую ад Беларусі тэму, практыкаванні пачаткоўцаў (эпікон /грамафон) ды тое, што ўжо чыталася з радыётрыбуны "Вострай брамы", то застанецца пяць старонак больш-менш арыгінальных публікацый. Трэцяя частка.

Раней я з цікавасцю чытаў у "НН" чатыры - шэсць старонак мінімум, сёння — дзве - тры максімум, хаця засталіся ранейшымі і мае зацікаўленні і кірунак выдання. Гэтак сама сумна чытаць хваляспевы тарашкевіцы, падзякі чытачоў за сапраўдную мову, сустракаючы побач непісьменныя для беларуса пераносы: ***"грамад - зянская", пад - зеленыя"***. Не пасуе гэта да ***"першай беларускай газеты"***.

Я пішу пра гэта не для рэагавання адказных таварышаў, а дзеля павагі да "НН". Хай выходзіць і займае першае месца — калі здолее.

Каб падсаладзіць пілюлю заўзятарам "Нашай Нівы" прапаную параўнаць ейныя "агрэхі" з прэм'ерай новай рубрыкі ў "Звяздзе" (27.10.98г). Назва: "Свет і мы". Змест: " месца Беларусі ў свеце". Аўтары: спецыялісты Группы па даследванню праблем еўрапейскай інтэграцыі Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта. Тэкст: "Са свайго боку сербы не збіраюцца аддаваць албанцам край Косава, на якім трымаецца амаль уся гісторыя сербаў. Уявіце сабе, каб палякі аддалі Кракаў, ці расіяне — Маскву або Піцер". Пытанне: ці так цяжка ўявіць нешта такое беларусам, калі яны страцілі Дзвінск, Смаленск — перадусім — Вільню? (вось дзе да месца параўнанне з Масквой). Косава не сталіца, але край багаты карыснымі выкапнямі). Ці не перажылі падобныя страты англічане, венгры, датчане? Адказ: усё так, але падобныя сумненні ўласцівыя беларускаму, а не ўсесаюзнаму менталітэту.

У пэўным сэнсе "Наша Ніва" — ацалелая частка "беларускага Косава", г.зн. асноваў нашага духу. Тым болей хочацца бачыць не ейны заняпад, але росквіт.

Д.Ж

## *Беларускія СМІ пра беларускую мову*

*Агляд і каментары Язэпа Палубяткі*

Можна з упэўненасцю сказаць, што тая частка грамадства, якая нічога не зрабіла ў абарону беларускай мовы, анічогачкі не зробіць і ў абарону расейскай. Яны так і будуць корпацца на сваіх дзецішчах, а калі вылезуць з баразны, то убачаць, што "их прекрасный, красивый, и интелегентный язык" ужо такім не з'яўляецца ...

**Наталля Шчасная**
**Народная воля 23.10.98г.**

*Беларуская мова перажыла, кажучы словамі паэта, "панскі здзек, чэкісцкія чысткі, рогат імперскі, вырак фашысцкі". Усімі сродкамі нам уводзілі ў вушы, што наша мова "хамская, деревенская, мужыцкая" супрацьпастаўляючы яе рускай — сапраўды багатай, але не адзінай такой у свеце. Кожная мова сярод мноства іншых — і адметная, і прыгожая, і найдаражэйшая яе носьбітам. Нельга цалкам не пагадзіцца з Францішкам Багушэвічам, які пісаў, што беларуская мова такая ж "людская, як і французская, альбо нямецкая, альбо іншая якая".*

*Існуе мова як асноўная адзнака нацыі — жыве і народ, калі ж знікае мова, то знікае і народ, асімілючыся з іншым народам.*

***Іван Лепешаў, прафесар***
***Народная воля 23.10.98г.***

А што родная апынулася ў цяжкім становішчы, у многім вінаваты самі пісьменнікі. Напішыце цікавы твор, — разважаў прэзідэнт, — каб яго чытаў народ, тады паступова загавораць і ўсе па-беларуску. А пакуль гэтага няма, то дэкрэтам нельга нікога прымусіць карыстацца мовай.

Канешне, уся гэтая дэмагогія, як і ў іншых выпадках асталася без адказу.

**Яфім Івановіч**
**Наша Ніва 26.10.98 г.**

*Беларуская мова вось ужо колькі дзесяткаў гадоў існуе менавіта як нізка купінаў сярод інакшага, не свайго свету. Яна большая ці меншая, гэта не істотна.*

***Сяргей Харэўскі***
***Наша Ніва 26.10.98г.***

Сёння ў Беларусі ўжо тысячы людзей падтрымліваюць адраджэнне роднае мовы і нацыянальную культуру

**Дзень мовы**
**"Наша Ніва" № 20**

*З ... палажэнняў Канстытуцыі і законаў Рэспублікі Беларусь вынікае, што пытанні, накіраваныя на зніжэнне дзяржаўных гарантыяў існаванне беларускай мовы, у тым ліку прыніжэння яе ролі ў параўнанні з іншымі мовамі не могуць выносіцца на рэспубліканскія рэферэндумы.*

*Тым самым, вынікі рэферэндума ў часткі падання рускай мове роўнага статуса з беларускай, а таксама ў часткі ўсталявання новай сімволікі з прававога пункту погляду з'яўляецца мізэрнымі і належаць адмене.*

***Міхаіл Пастухоў***
***"Пагоня" 25.10.98г.***

Натуральнае моўнае асяроддзе яшчэ застаецца ў вёсцы, а ў вялікіх гарадах адраджэнцы гуртуюцца ў суполкі і сябрыны, каб адгарадзіцца ад чужога вонкавага пабытовага свету. Досвед апошніх дваццаці гадоў паказаў на нетрываласць моўных аўтаноміяў, якія не разрастаюцца і не зліваюцца, як таго можна было б чакаць, а разбураюцца звонку.

**Дзень без чужога слова**
**"Наша Ніва" № 20**

*Калі тую мову, якой я пішу. якой я размаўляю, якой я дыхаю, якой я жыву, нехта хоча забараніць — некуды адыходзіць роспач і мне робіцца смешна. Як забараніць жыццё? Як можна перакрэсліць гісторыю маёй краіны? Майго народу? Як? ..*

***Юры Чарнякевіч***
***Наша Ніва № 18***





*ДОБРЫЯ КНІГІ*

# КАТЭХІЗІС ДЛЯ НЕАБЫЯКАВЫХ

### Анджэй Зубэрбір “Ці ведаю, у што веру”.

Ва ўступе да свайго твора яго аўтар, польскі святар кс.Анджэй Зубэрбір, напісаў: “Ці ведаю, у што веру”, — кніга вельмі простая. Прынамсі, па задуме яе аўтара. Хрысціянскую веру мы вызнаем моваю, якою не паслугуемся ў паўсядзённым жыцці. [... ] Кніга “Ці ведаю, у што веру” імкнецца растлумачыць ці ўказаць значэнне слоў і выразаў, якія ўжываюцца для выяўлення хрысціянскай веры і якія мы чуем на лекцыях па рэлігіі, у казаннях альбо чытаем у Святым пісанні.

Зразумела, гэта не тлумачэнне веры. Гэта толькі тлумачэнне слоў альбо зваротаў, якімі мы веру выяўляем. Па меры зразумення такіх слоў мы не спасцігаем веру (тое, у што мы верым, давяраючы Богу, заўсёды застаецца таямніцаю), але мы зможам з’арыентавацца, што азначанае гэта таямніца, у чым яна заключаецца.

Не трэба імкнуцца прачытаць гэтую кнігу на адным дыханні, ад пачатку да канца. Але нават калі хто так і робіць, няхай пасля паставіць яе дзесьці пад рукою”.

Гэты своеасаблівы катэхізіс стане добрым падручнікам для тых, хто пачынае спасцігаць сэнс таго, што прапануе чалавеку Касцёл. Несумненна, ён прыдасца ўсім неабыякавым да ўласнага духоўнага жыцця, асабліва ж — бацькам, моладзі, настаўнікам, катэхетам. Аўтарскі стыль — выразны і лаканічны, — прыгожая мова перакладу дадаюць тэксту станоўчых вартасцяў, якіх нярэдка бракуе беларускім каталіцкім выданням. Кошт 60 тыс.руб.

### Каталіцкі бестсэлер цяпер па-беларуску!

### Ян Павел II. “Пераступіць парог надзеі”.

Кожная кніга Яна Паўла II становіцца сусветным бестсэлерам. Чытача прыцягвае не толькі імя аўтара. Важнай прычынай з’яўляецца, канешне, тое, што Ян Павел II ніколі не пісаў пра рэчы малазначныя. Толькі тое, што насамрэч хвалюе чалавецтва, і толькі тое, што складае сутнасць кожнага чалавека як асобы, становіцца тэмамі яго казанняў, энцыклікаў, інтэрвію, успамінаў. Нядаўна знакаміты французскі святар Даніэль Анж, які прысвяціў сябе працы з моладдзю, ска-заў: “Гэтае пакаленне ба-чыць цяперашняга Папу як свайго айца і прарока. Яно не мела бацькоў, бы-ло адпіхнутае. Менавіта ў Яне Паўле II моладзь знайшла айца. Ён кажа ім праўду, але з айцоўскай любоўю. Ён таксама прарок, бо кажа поўную праўду і глядзіць далёка ў будучыню. Папа бачыць тое, што яшчэ толькі прыходзіць”.

Сёлета выйшаў доўгачаканы беларускі пераклад кнігі Яна Паўла II “Пераступіць парог надзеі”. Яна нарадзілася ў выніку інтэрв’ю, дадзенага Папам папулярнаму італьянскаму журналісту і пісьменніку Вітторыё Мэсоры. Ён адзначае, што “чытач знойдзе на гэтых старонках своеасаблівую “сумесь”: асабістыя прызнанні, рэфлексіі і духоўныя парады, містычныя медытацыі, позіркі ў мінуўшчыну і будучыню, тэалагічныя і філасофскія разважанні”.Але форма адыходзіць на другі план, калі зазірнеш у змест. Вечныя пытанні (Ці Бог сапраўды існуе? Чаму ў свеце столькі зла?), дыскусійныя і нават спрэчныя тэмы (Чаму так шмат рэлігій? Чаму мы падзеленыя?) суседнічаюць з далікатным, шчырым і глыбокім роздумам над экзістэнцыяй чалавека і чалавецтва. Пісьменніка цікавіла многае: як моліцца Папа, якая будучыня хрысціянства (“У трэцяе тысячагоддзе — як меншасць”), што такое “новая евангелізацыя”, чаму адбылося падзенне камунізму, чаму свет не разумее Хрыста, навошта быў патрэбны Другі Ватыканскі Сабор, чаму Касцёл крытыкуе фемінізм, навошта абараняць правы чалавека?...

Кошт 50 тыс.руб.



ЯН ПАВЕЛ II

ПЕРАСТУПІЦЬ ПАРОГ НАДЗЕІ

**Прыйдзі, Дух Святы**



*Малітвы і песні да Духа Святога*




### Сведчанне аб святарскім служэнні кніга Яна Паўла II

20-годдзю Пантыфікату Яна Паўла II прысвечана выданне беларускага перакладу кнігі Святога Айца “Дар і Таямніца”, які напярэдадні юбілею выйшаў з друку. Гэты твор упершыню пабачыў свет два гады таму назад і, гэтак жа, як “Пераступіць парог надзеі”, у многіх краінах свету стаў бестсэлерам.

У прадмове Папа піша, што кніга нарадзілася як адказ на шматлікія просьбы даць сведчанне аб святарскім служэнні. Ян Павел II расказвае пра свой шлях святара і прапануе роздум пра сэнс служэння. Асаблівa месца ў кнізе адведзена разважанням пра месца святара ў сучасным свеце, пра патрабаванні і выклікі, якія стаяць перад кожным святаром. “Усё тое, пра што я тут кажу, не датычыць толькі знешніх падзеяў, але сягае да каранёў маіх самых глыбокіх і найбольш асабістых перажыванняў і майго досведу”, — адзначае Папа ў прадмове.

Перакладчыца кнігі, пісьменніца і рэдактар часопіса “Наша вера” Крыстына Лялько сказала, што “Дар і Таямніца” на першы погляд можа падацца вельмі простай кнігай. Але “простай” мовы і “простага” стылю вымагае сам жанр сведчання. Калі ў папярэдняй кнізе — “Пераступіць парог надзеі” — Ян Павел II выступае як пантыфік, тэолаг, філасаф, пастыр, то ў “Дары і Таямніцы” ён адкрываецца чытачу як звычайны зямны чалавек з уласным досведам веры. Перад намі са старонак кнігі паўстае не толькі Папа Рымскі, але перад усім — Караль Вайтыла з польскіх Вадовіцаў, гімназіст і студэнт, які піша вершы і захапляецца тэатрам, працуе ў часе вайны на каменаломнях, а адначасна шукае сваё жыццё ў Богу. Гэтая кніга, — адзначыла перакладчыца, — добры падручнік веры і служэння для кожнага чалавека, для каго Хрыстус — “і шлях, і праўда, і жыццё”.

Кошт 50 тыс.руб.




**“Наша вера”** — часопіс, які варта чытаць.

Каталіцкі часопіс “Наша вера” яго стваральнікі адрасуюць найперш усім, хто цікавіцца беларускай рэлігійнай гісторыяй, добрай літаратурай і публіцыстыкай. Гістарычныя матэрыялы склалі большую частку другога сёлетняга нумару, які нядаўна выйшаў з друку. Можна замовіць таксама папярэднія выпускі. Кошт 30 тыс руб.




Новы часопіс для дзяцей

**“МАЛЕНЬКІ РЫЦАР БЕЗЗАГАННАЙ”**

дадатак да часопіса “Ave Maria”

Цікавыя рэпартажы, навучальныя апавяданні, вершы, займальныя крыжаванкі і рэбусы, цудоўныя ілюстрацыі. Ужо выйшла тры нумары.

Кошт 15 тыс руб.

